поўнасьцю незалежнай. Аднак *Рада БНР* адмовілася перадаць свае паўнамоцтвы з-за неспрыяльных умоваў для незалежнасьці ў самой Беларусі.

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі* і цяпер зьяўляецца легітымным ворганам беларускае прадстаўнічае ўлады, носьбітам ідэі незалежнасьці Беларусі, угрунтаваных ва *ўстаўных граматах БНР* і *Акце 25 сакавіка 1918 года. Ідэалы БНР — гэта вольная незалежная дэмакратычная Беларусь, роўная паміж народамі і дзяржавамі, гэта разьвіцьцё нацыянальнага грамадзтва і яго нацыянальнай дзяржавы, гэта разьвіцьцё беларускай мовы, беларускай культуры, паважлівыя ўзаемадачыненьні з суседзямі ды іншымі народамі і дзяржавамі ў Эўропе і ва ўсім сьвеце. Ідэя грамадзянства БНР набліжае перспэктыву вольнай, незалежнай і дэмакратычнай Беларусі.*

Сёньня Беларусь ізалююць ад дэмакратычных, разьвітых краінаў і прывязваюць да Расеі, у якой адбываецца глыбокі эканамічны крызіс, крыміналізацыя і фашызацыя грамадзтва.

**БНР ёсьць будучыняй вольнае Беларусі.** 13 сакавіка *Прэзыдыюм Рады БНР* у адмысловай заяве зазначыў, што *„людзі, якія працуюць на карысьць ужыцьцёўленьня ідэі беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці, маюць аснову ўважаць сябе за грамадзянаў БНР. Такое сымбалічнае грамадзянства набывае маральнае палітычнае значэньне, бо процідзеіць нацыянальнай здрадзе, якую праводзіць рэжым дыктатуры Лукашэнкі."*

***(Паводле матэрыялаў БНФ „Адраджэньне")***

# ФРОНТ І ВЫБАРЫ ДЫКТАТУРЫ

Выбары — вялікая падзея і выпрабаваньне для палітычнае арганізацыі. Для некаторых партыяў на Захадзе гэта пік дзейнасьці і вяршыня актыўнасьці. У гэты час дзейнічаюць і выконваюцца самыя жорсткія партыйныя законы, датрымліваюцца ўсе праграмныя і статутныя абавязкі.

*Беларускі Народны Фронт* строга прытрымліваўся і прытрымліваецца гэтых палітычных правілаў. Парушальнікі выключаліся з *БНФ* нават цэлымі першаснымі арганізацыямі. На выбарах ня можа быць ніякай расхлябанасьці і анархіі ў працы, бо выбарчая кампанія ёсьць жорстка вызначаны палітычны працэс, незалежна ад таго, удзельнічае ў ёй партыя ці ня ўдзельнічае, пасыўная яе роля, ці актыўная.

Бадай адзіны раз, калі *БНФ* ў пэўнай ступені праявіў няўзгодненасьць і мяккацеласьць — гэта ў 1996 годзе восеньню, у час выбарчых маніпуляцыяў Лукашэнкі. Вопыт паказвае, што заўсёды знаходзяцца людзі, у якіх жаданьне стаць дэпутатам ці ўдзельнічаць у выбарах зацямняе розум, робіць іх неўсьведамляльнымі. Яны гатовыя парушыць нават статутную дысцыпліну і элемэнтарную палітычную лёгіку.

Лукашэнкаўскія выбары ва ўмовах акупацыйнай дыктатуры па нелегітымных законах — гэта ня тая справа, у якой Фронту можна памыліцца. Вынікі памылкі маглі б стаць вельмі пагрозьлівымі. Таму *БНФ* заранёў дакладна вызначыў сваю пазыцыю і лінію паводзінаў. *„Беларускі Народны Фронт ня будзе ўдзельнічаць у любых выбарчых спэктаклях пры захаваньні антыдэмакратычнага рэжыму,"*— сказана ў заяве *Сойму БНФ*.

Ухвала *Сойму Партыі БНФ* ад 17-га студзеня 1998г. дае наступнае вызначэньне пазыцыі: *„Партыя Беларускага Народнага Фронту пацьвярджае, што дэмакратычныя выбары ў нашай краіне магчымыя толькі пры вяртаньні да Канстытуцыі 1994 году, спыненьні палітычных рэпрэсіяў і перасьледу незалежнай прэсы, вольным доступе ўсіх палітычных сілаў да радыё і тэлебачаньня, дэмакратычным фармаваньні выбарчых камісіяў. Мы ня маем ніякіх ілюзіяў, што рэжым Лукашэнкі выканае гэтыя ўмовы. Таму Партыя БНФ ня будзе ўдзельнічаць у выбарчых інсцэніроўках."*

11-га красавіка *Сойм БНФ* прыняў Рашэньне, якое будзе няўхільна выконвацца. Зьмест яго наступны:

*1. Лічыць немагчымым актыўны альбо пасыўны ўдзел сяброў БНФ „Адраджэньне" ў любых кампаніях выбараў, прызначаных А.Лукашэнкам паводле „канстытуцыі" 1996г.*

*2. Парушэньне п.1 гэтага Рашэньня цягне за сабой выключэньне з шэрагаў БНФ „Адраджэньне", як за дзейнасьць, супярэчную Статуту БНФ „Адраджэньне".*

Трэба адзначыць, што гэтае Рашэньне, як і ўсе дакуманты па выбарах, прынятыя абсалютнай большасьцю сяброў Сойму (супраць не галасаваў ніхто). Цяпер у Фронце практычна ўсе разумеюць, што супрацьстаячыя рэжыму сілы не павінны удзельнічаць у дыктатарскіх выбарах. Для *Фронта* — гэта пытаньне яго палітычнай пэрспэктывы і будучыні вольнай Беларусі.

***Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ***

# ЗАЯВА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ"

## Аб палітыцы заходніх краінаў у дачыненьні да Беларусі

Банкруцтва расейскай фінансавай сістэмы, якое стала відавочным у жніўні сёлета, абвастрыла палітычную сытуацыю ва Ўсходне-эўрапейскім рэгіёне. Да ўлады ў Расеі вяртаюцца колы, узрошчаныя і захаваныя былымі савецкамі спэцслужбамі. Яны адкрыта пачалі дзейнічаць згодна сваёй імпэрскай камуністычнай ідэалёгіі. Узмацніліся інтэграцыйныя дзеяньні, накіраваныя на анэксію Беларусі.

*Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"* пацьвярджае свой „Зварот да кіраўніцтва Расеі, разьвітых краінаў сьвету і міжнароднай супольнасьці" ад 13 сьнежня 1997г., дзе гаворыцца пра *„небясьпеку прыходу да ўлады ў Расеі палітычных сілаў, якія спарадзілі рэжым Лукашэнкі ў Беларусі. Авалодаўшы ядзернай кнопкай, яны будуць здольныя ўчыніць шантаж усяго цывілізаванага сьвету. Нельга гэтага дапусьціць".*

*Беларускі Народны Фронт* заклікаў разьвітыя краіны ўжыць рычагі палітычнага, фінансавага і эканамічнага ўплыву на Расею, якая ўскормлівае і падтрымлівае рэжым Лукашэнкі і тым самым мосьціць шлях да новага таталітарызму ва Ўсходняй Эўропе.

Мы вымушаныя канстатаваць, што банкруцтва Расеі — гэта ёсьць адначасна і вынік памылковай палітыкі цяперашняй адміністрацыі ЗША, якая безаглядна падтрымлівала Ельцына, не зважаючы на адсутнасьць рэальнае дэмакратыі і на адсутнасьць рэформаў, якія б замацоўвалі рэальны рынкавы капіталізм. Яны заплюшчвалі вочы на адкрыта імпэрскую палітыку Расеі ў дачыненьні да ейных постсавецкіх суседзяў, на тое, што Масква выдаткоўвае немалыя матэрыяльныя сродкі дзеля падтрымкі антыдэмакратычнага марыянэткавага рэжыму Лукашэнкі. Безаглядная стаўка на Ельцына з боку Захаду тлумачылася неабходнасьцю надзейна кантраляваць ядзерную зброю былога СССР.

Сёньня відавочна, што фінансавыя рычагі ўзьдзеяньня на Расею не спрацоўваюць. Там стварылася крымінальная сістэма эканомікі, пры якой заходнія крэдыты трапляюць на рахунак прыватных асобаў і вывозяцца за мяжу.

Цяперашняя сытуацыя, у якой апынулася Расея, вядзе да ўсталяваньня дыктатуры альянсу чырвона-карычневых палітычных сілаў і функцыянэраў колішняга савецкага КГБ.

*Мы лічым правільным*, калі краіны Захаду і ЗША ў інтарэсах дэмакратыі і міру ня будуць спрыяць імпэрскім інтарэсам Расеі і падтрымліваць іх. Нельга дапусьціць ліквідацыі сувэрэнітэту Беларусі пад выглядам „інтэграцыі" і ўвядзеньня падвойнага беларуска-расейскага грамадзянства. Гэта адчыніць Лукашэнку дарогу ў Крэмль. Ён застаецца тым кандыдатам, на якога робяць асноўную стаўку савецка-імпэрскія сілы Расеі. Дыктатура ў Расеі ня вырашыць ні расейскіх, ні сусьветных праблемаў. Наступствам яе можа стаць пагроза дэмакратыі, міру і стабільнасьці ў Эўропе.

Мы лічым, што ў інтарэсах дэмакратычнага сьвету была б ліквідацыя дыктатарскага рэжыму ў Беларусі і падтрымка рэальнага пашырэньня дэмакратыі на Ўсходзе Эўропы. Дэмакратычныя сілы ў Беларусі, як і ўвогуле ва Ўсходняй Эўропе, сфармаваліся на аснове нацыянальна-незалежніцкага антыімпэрскага руху за вызваленьне ад расейска-савецкай імпэрыі. Незалежніцкія сілы пасьлядоўна выступаюць за дэмакратычны шлях разьвіцьця, супраць дыктатуры, супраць расейскага імпэрыялізму і ксэнафобіі, за далучэньне да эўрапейскае супольнасьці, за ўступленьне ў НАТО. Яны арыентуюцца на Захад. Моцная незалежная дэмакратычная Беларусь разам з моцнай дэмакратычнай Украінай стварылі б умовы для хутчэйшага ўсталяваньня дэмакратыі ва ўсёй Усходняй Эўропе.

Дэзынтэграцыя расейскай імпэрскай сістэмы, усьлед за распадам „сацыялістычнага лягеру" і СССР, ёсьць непазьбежнасьць. Мы заклікаем дэмакратычныя разьвітыя краіны сьвету прыкласьці усе намаганьні, каб зьнізіць выдаткі гэтага распаду і ўлічваць яго нармальны працэс. Падчас дэзынтэграцыі Расеі кантроль і зьнішчэньне ядзернай зброі, накопленай СССР, былі б больш эфектыўныя пад міжнародным кантролем, чым пад уладай любога рускага дыктатара.

Мы чакаем, што Захад і Злучаныя Штаты Амэрыкі рэальна падтрымаюць незалежнасьць Беларусі і змаганьне беларускіх незалежніцкіх сілаў за дэмакратыю і свабоду.

***Сойм Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***
*12.09.1998 г., Менск*

# MEMORANDUM CONCERNING THE PRESENT POLITICAL SITUATION IN BELARUS

**(On the occasion of the Tenth Anniversary of the Belarusan Popular Front)**

A recent visit of Mr. Primakov to Belarus and the reciprocate travel of Mr. A.Lukashenka to Moscow suggest the following considerations:

The new prime-minister of Russia, i.e. Mr.Primakov, who obviously has the support of Russian Communists and the KGB, makes important political inroads in Belarus.

Undoubtedly, Primakov's activities in his new capacity as a prime-minister, with the support of Communists, signify a comeback to power of former nomenklatura, various Russian extremists-nationalists groups and strengthening of the KGB apparatus and its influence.

In a short tenure as a prime-minister Mr. Primakov revealed the following characteristics of his „modus-operandi": his appointees for middle-level executive and ministerial positions are drawn from the cadres of former Communists and KGB functionaries. At the same time Mr. Primakov will rely on democratic processes: elections etc. Mr. Primakov in his foreigh policy, specifically, his policies toward Belarus, will enforce the process of integration and he will make steps to advance Mr. A. Lukashenka to the Russian political field, knowing well that Lukashenka is aiming to enter the Russian political arena. One should keep in mind that Mr. Primakov and Mr. Lukashenka have many similar political views and that Mr. Lukashenka expressed at numerous occasions his desire to restore the Soviet Union; he does not hide his hate toward the United States and his close association with Iraq and Iran.

The annexation of Belarus to the Russian Federation and the strengthening of nationalist-Communists groups in Russia present a threat to the region, i.e. the Baltic countries, Bielastok region and Kaliningrad oblast'.

At the same time, increase of dictatorial power in Russia will complicate relationship with NATO, will generate problems in the Sevastopol region and the Black Sea Navy.

One should not discard the possibility that integration of Belarus with Russia will result eventually in military conflict and destabilization of this region.

At this point we feel that the western policies (incl. the United States) toward Russia were wrong: it is not advisable to rely on one political figure (in this case of Mr. Eltsyn) and certainly it is wrong to support financially the Russian Federation only. The results of such policies are odvious: democratization of Russia is no closer than it was at the beginning of 1990s.

Thus, we strongly suggest that in order to achieve desirable goals — democratization of the society in Eastern Europe, the United States and the Western Powers should support more realistically Belarus and other East European countries.

***Zianon PAZNIAK***
***Chairman Belarusan Popular Front „Adradzennie"***
*September 25, 1998*

# ХРАНАЛЁГІЯ ПАРУШЭНЬНЯЎ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА НА БЕЛАРУСІ (1998)

*(Менскі Цэнтр у абарону правоў чалавека „Вясна - 96")*

***ЛІПЕНЬ** (дадатак)*

*29 ліпеня* старшыня Цэнтральнага райсуда г. Магілёва **Плотнікава** прысудзіла кіраўніку *Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ* ***Анатолю Фёдараву*** штраф у памеры 37,5 мільёнаў рублёў (больш за 400 даляраў ЗША). А.Фёдарава абвінавацілі ў тым, што ён 15 ліпеня 1998г. арганізаваў пікет у Магілёве ў абарону правоў замежных дыпляматаў, якіх лукашэнкаўскія ўлады прымусова выселілі з рэзыдэнцыяў у Драздах.

***ЖНІВЕНЬ***

*У жніўні ў Бабруйску* сябры *Гарадзкой арганізацыі БНФ* правялі тэлефонны мітынг. Яны ўкінулі ў паштовыя скрынкі жыхароў улёткі з прапановай тэлефанаваць бабруйскаму кіраўніцтву і задаваць адно пытаньне: „Калі будзе наладжаны рух тралейбусаў у аддаленыя мікраараёны?" Пры гэтым былі нагаданыя нумары тэлефонаў гарадзкога начальства. Прапанову жыхары ўспрынялі з энтузіязмам, і тэлефоны ў бабруйскіх прыёмных ды кабінетах не змаўкалі. Цяпер бабруйскае начальства ня ведае, як адпомсьціць фронтаўцам. Але зачапіць баіцца.

*8-га жніўня беларуская моладзь Рэчыцы* арганізавала футбольны матч у гонар палітвязьня ***Аляксея Шыдлоўскага***, а

потым ўдзельнікі яго і заўзятары прайшлі па горадзе зь беларускімі *бел-чырвона-белымі сьцягамі.* Такія ж самыя матчы адбыліся ў *Гомелі* і *Сьветлагорску.*

*10 жніўня* на памежным пераходзе *Тамашоўка*, што на беларуска-украінскай мяжы ў Берасьцейскай вобласьці, мытнікі затрымалі двух *чэшскіх студэнтаў —* ***Любаша Вэсэлі*** і ***Міхала Чэрні.*** Мытнікі канфіскавалі ў хлопцаў, якія ехалі зь Берасьця ў Львоў, бюлетэні Праваабарончага Цэнтру „Вясна - 96", нумары газэтаў *„Навіны", „Пагоня"* і *„Брестский курьер"* (усяго 36 асобнікаў), а таксама фотаматэрыялы аб парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. Грамадзянаў Чэхіі пратрымалі на мяжы 8 гадзінаў, дапытваючыся, дзе яны ўзялі і навошта вывозяць за межы Беларусі матэрыялы, якія „кампрамэтуюць прэзыдэнта Беларусі" і „шкодзяць іміджу Беларусі за мяжой". Патрабаваньні студэнтаў дазволіць ім зьвязацца з амбасадай Чэхіі ў Менску і прывесьці перакладчыка мытнікі праігнаравалі. Канфіскаваўшы „крамолу", студэнтаў адпусьцілі... Яны вымушаныя былі вярнуцца ў Берасьце і адтуль выехаць у Прагу.

*11 жніўня* адбыўся суд над дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня і былой даверанай асобай Лукашэнкі ***Анатолем Лябедзькам.*** Яму інкрымінавалі ўдзел у маладзёвай акцыі *Маладога Фронту „Беларусь — у Эўропу".* Нягледзячы на тое, што ўдзел А.Лябедзькі ў акцыі *МФ* ня быў даказаны судом, суддзя — „вядомы" лукашэнкаўскі цемрашал **Анатоль Барысёнак** — прысудзіў яму штраф у памеры 5 мільёнаў рублёў.

*11* і *17 жніўня* выдаўцы незалежнай газэты *„Наша праўда"*, якая выходзіць *у Дзятлава* Гарадзенскай вобласьці, ***Мікола Грышан*** і ***Васіль Алейнікаў*** на пасяджэньні адміністрацыйнай камісіі Дзятлаўскага райвыканкама былі аштрафаваны на 5 і на 3 мільёны рублёў за нібыта дапушчаныя падчас выпуску і распаўсюджваньня газэты адміністрацыйныя правапарушэньні. Самі выдаўцы зьвязваюць іхны перасьлед з тым, што ў газэце былі надрукаваныя крытычныя артыкулы ў адрас мясцовых уладаў.



***Усе на аднаго.***

*12 жніўня* ў Вышэйшым Гаспадарчым Судзе судзілі *газэту* ***„Наша Ніва"*** за ўжываньне беларускага клясычнага правапісу беларускай мовы. Нагадаем: *„Наша Ніва"* выходзіць на *„тарашкевіцы"* — беларускім правапісе, адмененым бальшавіцкай рэформай 1933 году. Суддзя **Ірына Пятухова** прыняла рашэньне правесьці *„комплексную экспэртызу"* мовы газэты, дзеля чаго будзе ўтвораная спэцыяльная група экспэртаў.

*13 жніўня* сьледчы пракуратуры Савецкага раёну г. Менска **Ігар Голубеў** правёў допыт па *„справе Севярынца"*, аднаго з актывістаў *„Маладога Фронту"* ***Цімоха Дранчука.*** Цімох, які праходзіць па гэтай справе ў якасьці сьведкі, быў дастаўлены ў пракуратуру ў кайданках, у суправаджэньні нарада міліцыі. Ён *як непаўналетні* не хацеў ісьці на допыт без бацькоў, і тады міліцыянты павалілі яго на падлогу, надзелі кайданкі і гвалтам „даставілі ў пракуратуру".

*19 жніўня падкамісія Камісіі ААН па правах чалавека*, пяцідзесятая Сэсія якой адбываецца ў Жэневе, у рэзалюцыі Сэсіі выказала *„глыбокую заклапочанасьць"* парушэньнямі правоў чалавека на Беларусі, тым, што *„беларускія ўлады незаконна трымаюць пад вартай, затрымліваюць ці іншым чынам прыцясьняюць беларускіх палітычных лідэраў, журналістаў і праваабаронцаў, калі яны імкнуцца ажыцьцявіць сваё права на свабоднае выказваньне, робячы спробы выкрыць, крытыкаваць альбо іншым чынам выказваць заўвагі ў адносінах да злоўжываньня ўладай з боку дзяржаўных пасадавых асобаў, што прыводзіць да атмасфэры страху і нецярпімасьці".* Падкамісія па папярэджаньні дыскрымінацыі і абароне меншасьцяў Камісіі ААН па правах чалавека заклікала ўрад Беларусі *„захоўваць міжнароднае права ў галіне правоў чалавека шляхам забесьпячэньня недатыкальнасьці і абароны журналістаў і праваабаронцаў..."*

*21 жніўня ў Менску* прайшла *акцыя пакаяньня* ў сувязі з 30-й гадавінай уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію. Пікет быў арганізаваны апазыцыяй з выкарыстаньнем беларускай нацыянальнай сымволікі, плякатаў і ўлётак.

*27 жніўня.* Норавы рэжыму. Старшыня сацыял-дэмакратычнай партыі *„Народная Грамада"* здаў у Дзяржаўтаінспэкцыю г.Менска на перарэгістрацыю тэхпашпарт і нумарныя знакі свайго аўтамабіля „Жыгулі" 1980 года выпуску. Увечары супрацоўнікі ДАІ паведамілі М.Статкевічу, што дакуманты яму не аддадуць, а ягоная машына падлягае арышту да часу, пакуль ён не заплоціць 60 мільёнаў рублёў штрафу, прысуджаных яму за ўдзел у акцыях апазыцыі. Такое рашэньне прыняў суддзя Першамайскага раёну Менска **Уладзімер Кобышаў** нібыта па просьбах судовых выканаўцаў. У сувязі з гэтым М. Статкевіч заявіў, што ні ў якім разе, найперш па этычных прычынах, плаціць штрафы ня будзе, бо „Лукашэнка і так увахodзіць у кола найбагацейшых людзей Эўропы і абыйдзецца без грошай сям'і Статкевіча".

*27 жніўня* двое „невядомых" пасярод дня ўзламалі дзьверы кватэры ***Віктара Івашкевіча***, галоўнага рэдактара бюлетэню на рускай мове *„Рабочий".* „Узломшчыкі" ўсё перавярнулі, але нічога не ўзялі. Гаспадар кватэры мяркуе, што шукалі „шкодную" літаратуру і газэту *„Рабочий".* Што б ні шукалі, — гэта быў вобыск па-лукашэнкаўску.

*У ноч з 31 жніўня на 1 верасьня ў Віцебску* з пляцу перад ваенкаматам зьнік бюст расейскага карніка **А.Суворава**, які ў 1794 годзе патапіў у крыві паўстаньне пад кіраўніцтвам ***Тадэвуша Касьцюшкі.***

*31 жніўня 1998г.* суд Ленінскага раёну Менска вынес прысуд па справе ***Ігара Корсака*** і ***Паўла Сілівончыка.***

Навучэнцы Менскай мастацкай вучэльні Ігар Корсак (23 гады) і Павел Сілівончык (18 гадоў) былі затрыманыя міліцэйскім патрулём 2 чэрвеня ў 5 гадзінаў раніцы. Яны расклейвалі ў менскім мікрараёне *Серабранка* ўлёткі апазыцыйнага зьместу, акрамя таго, малявалі фарбай эмблему нефармальнай арганізацыі *„Белы легіён"* — сымвал, які мае назоў *„спарыш"* і шырока выкарыстоўваецца ў беларускіх нацыянальных арнаментах. Пасьля затрыманьня І. Корсак і П.



*Аблава.*

Сілівончык былі дастаўленыя ў РАУС Ленінскага раёну Менска, дзе іх пратрымалі 6 гадзінаў. На кватэрах І.Корсака і П.Сілівончыка быў праведзены вобыск, падчас якога ў кватэры І.Корсака былі знойдзеныя ўлёткі апазыцыйнага зьместу, клей і трафарэт са „знакам складанай канфігурацыі" (геаметрычны малюнак „спарыша"). Абвінавачваньне ім было прад'яўлена амаль праз месяц пасьля затрыманьня, тады былі ўзятыя і падпіскі аб нявыезьдзе.

Спачатку справа І.Корсака і П.Сілівончыка мела адміністрацыйны характар, але ў ходзе сьледства была перакваліфікаваная ў крымінальную. І. Корсака і П. Сілівончыка абвінавацілі па артыкулу 201, ч. 2 КК — „хуліганскія дзеяньні з асаблівым цынізмам" і „дзёрзкасьцю". У якасьці сьведкаў выступілі супрацоўнікі міліцыі, што затрымлівалі юнакоў. Пракурор **Слука** прасіў пакараць І. Корсака і П. Сілівончыка адным годам пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай прыгавору. Акрамя таго, у выяве „спарыша" сьледства ўбачыла аналёгію з фашыстоўскай свастыкай.

Прадпрыемства „Мінскэнэрга" прасіла суд (суддзя **Тацьцяна Жукоўская**) спагнаць з хлопцаў 54 млн. беларускіх рублёў (каля 900 даляраў ЗША — сярэдняя зарплата за чатыры гады) на рамонт электрашчытавай будкі, на якой быў намаляваны адзін „спарыш", каб правесьці за гэты кошт капітальны рамонт аб'екта. Адвакаты і грамадзкі абаронца (прадстаўнік праваабарончага цэнтру „Вясна - 96" Любоў Лунёва) настойвалі, каб з падсудных было зьнятае абвінавачваньне ў распаўсюджваньні фашыстоўскай сымволікі. Суду было прадстаўлена заключэньне экспэртаў-мастацказнаўцаў, зь якога вынікала, што знак „спарыша" зьяўляецца часткай беларускага арнамэнту. (Дарэчы, гэты самы арнамэнт выкарыстаны ў аздабленьні афіцыйна прынятана пры Лукашэнку сьцяга.)

І. Корсаку і П. Сілівончыку быў вынесены прысуд: штраф ў памеры 10 мінімальных зарплатаў (2,5 млн. беларускіх рублёў). Трафарэт „знак складанай канфігурацыі" і ўлёткі апазыцыйнага зьместу было прысуджана зьнішчыць.

### *ВЕРАСЕНЬ*

*1 верасьня ў сталіцы Беларусі* адбыўся пікет у абарону беларускіх клясаў, школаў і ўсёй нацыянальнай адукацыі. Ініцыятарам правядзеньня пікету выступілі актывісты *Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны* (***ТБМ***). Пікет быў выстаўлены ў Міхайлаўскім завулку непадалёку ад Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту.

*1 верасьня* ў пачатку новага навучальнага года менскія школьнікі ***Аляксандар*** і ***Зьміцер Іокшы*** не пайшлі ў школу. Раней браты вучыліся ў беларускіх клясах СШ №166 Менска. У 1997 - 1998 навучальным годзе кляса, у якой вучыўся Зьміцер Іокша, была перайначана на расейскую мову навучаньня. Бацькі былі вымушаныя перавесьці сына ў СШ №48, дзе захавалася беларускамоўная кляса. У РАНА (Раённым аддзеле народнай адукацыі) гарантавалі, што гэтая кляса ня зьнішчыцца, але праз год кляса была пераведзеная на расейскую мову. Тое самае здарылася і з клясай старэйшага брата Аляксандра. Побач з домам сям'і Іокшаў *не знайшлося* беларускай школы. ***Бацькі*** адмовіліся ад навучаньня сваіх дзяцей на расейскай мове, і браты Іокшы не пайшлі ў школу. За гэты ўчынак дзяцей разам з бацькамі выклікалі ў РАУС (Раённае аддзяленьне унутраных справаў) Фрунзенскага раёна Менска на паседжаньне камісіі па справах непаўналетніх. Бацькі *патлумачылі каміісіі, што* іх дзеці па Канстытуцыі маюць права навучацца на роднай мове. У адказ бацькам чарговы раз прапанавана зьмяніць школу. Але ў Менску акупанты ўжо зачынілі ўсе беларускія школы.

*2 верасьня* трое сяброў *Віцебскай Рады БНФ* — ***Уладзімер Пешчанка, Барыс Хамайда*** і ***Юры Карпаў*** — былі затрыманыя. Іх падазраюць ва ўдзеле ў справе, зьвязанай са зьнікненьнем бюста расейскага карніка А.Суворава ў Віцебску. Пасьля затрыманьня Б. Хамайду і Ю. Карша прывезьлі ў РАУС у якасьці сьведкаў. Супраць ***Уладзімера Плешчанкі*** ўзбудзілі крымінальную справу па арт. 225 КК — „зьнішчэньне гісторыка-культурных каштоўнасьцяў (2 гады папраўчых работ альбо штраф), а таксама арт. 87 КК — „крадзёж маёмасьці" (да трох гадоў папраўчых работ альбо штраф). *3-га верасьня* Уладзімер Плешчанка быў затрыманы на трое сутак паводле арт. 119 КК, а пасьля накіраваны ў СІЗА Віцебска, дзе і знаходзіцца па сёньняшні дзень.

*2 верасьня* 1998г. былы студэнт Дзяржаўнага унівэрсытэту радыёэлектронікі *і інфарматыкі* ***Алесь Мухін*** папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы. 28 сакавіка 1998г. Алесь Мухін быў выключаны з унівэрсытэту за свае палітычныя погляды. 28 лютага 1998г. Алесь Мухін разам са сваімі сябрамі ***Андрэем Гілевічам*** і ***Паўлам Мурашкам***, вяртаючыся з канцэрта беларускага рок-гурта „NRM", напісалі на сьценах дамоў і на агароджах лёзунгі кшталту *„Жыве Беларусь!", „Луку на муку".* Каля подпісаў яны малявалі выяву нацыянальнага *бел-чырвона-белага сьцяга.* Студэнтаў затрымаў міліцэйскі патруль. 18 траўня 1998г. суд Цэнтральнага раёну Менска разгледзеў справу А. Мухіна, А. Гілевіча і *непаўналетняга* П. Мурашкі. Суд прызнаў усіх трох вінаватымі. Прысуд — пазбаўленьне волі на год умоўна з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на год.

*2 верасьня* раптоўна і заўчасна памёр дэкан грэка-каталіцкай царквы, настаяцель прыходу сьв. Язэпа ***айцец Ян Матусевіч***. Айцец Ян Матусевіч быў першым ў Беларусі грэка-каталіцкім сьвятаром, ён узначаліў адраджэньне ўніяцкай царквы, да якой належыла ў свой час *80 адсоткаў беларусаў.* Айцец Ян Матусевіч быў членам *Біблейскага таварыства*, актыўна ўдзельнічаў у працы *Таварыства Беларускай Мовы.* Ішоў на чале першага *Чарнобыльскага шляху* ў 1989 годзе.

*У ноч з 7 на 8 верасьня* на назіральнай вышцы пры ўезьдзе ў г. Лёзна *залунаў бел-чырвона-белы сьцяг.*

*16 верасьня* на тэрыторыі унівэрсытэцкага гарадка службай аховы Унівэрсытэту былі затрыманыя ***Сяргей Кур'ян*** і ***Галіна Юрына***, якія раздавалі студэнтам бюлетэні "Хартыі-97". Пры затрыманьні была ўжытая сіла. Затрыманых адвялі ў службовае памяшканьне аховы і выклікалі міліцыю. Іх даставілі ў РАУС Маскоўскага раёна Менска, дзе супрацоўнікі

міліцыі былі вымушаныя вярнуць канфіскаваныя ахоўнікамі газэты і адпусьцілі.

*17 верасьня 1998г. у Менску* адбыўся пікет, прысьвечаны 33-годдзю ***Андрэя Клімава*** — бізнэсмена і дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, які з 11 лютага 1998г. знаходзіцца ў менскім СІЗА. У пікеце прымалі ўдзел актывісты Праваабарончага цэнтру „Вясна - 96".

*21 верасьня*, пасьля спатканьня зь дзецьмі, быў зьбіты турэмшчыкамі і кінуты ў карцэр ***Уладзімер Кудзінаў***. Ул. Кудзінаў напісаў пасланьне да беларускай моладзі, у якім сцьвярджаў, што дыктатарскі рэжым Лукашэнкі ня вечны, і паспрабаваў перадаць пасланьне на волю праз сваіх дзяцей. Але на кантрольна-прапускным пункце дзяцей абшукалі і пасланьне адабралі: адміністрацыю турмы вельмі хвалюе, каб інфармацыя ад палітвязьня Уладзімера Кудзінава не прасачылася на волю.

***(Матэрыялы падрыхтаваў Алесь БЯЛЯЦКІ)***

# РУСЫФІКАЦЫЯ Ў ШКОЛАХ

Працэс выкараненьня беларускай мовы ў школах працягваецца.

*Вучню 5"А" клясы школы №96 у Менску* ***Аляксандру Кудзіну*** адмоўлена ў праве атрымліваць адукацыю на роднай мове. Чатыры гады Аляксандар Кудзін вучыўся ў беларускай клясе з паглыбленым вывучэньнем ангельскай мовы. 2-га верасьня 1998г. адбыўся сход, на якім бацькі былі пастаўленыя перад фактам: клясны кіраўнік **Людзьміла Крамнёва** паведаміла, што кляса пераводзіцца на расейскую мову навучаньня. Бацькам патлумачылі, што гэта абумоўлена тым, што ствараецца „моцная кляса", дзе застануцца толькі самыя здольныя вучні. З прамовы кляснага кіраўніка, настаўніцы ангельскай мовы, вынікала, што здольным вучням ведаць родную мову неабавязкова.

***Леанід Кудзін***, бацька Аляксандра, не пагадзіўся з тым, што *ягоны сын павінен вучыцца на чужой мове*. Тады кіраўніцтва школы №96 прапанавала бацькам Аляксандра Кудзіна перавесьці сына ў другую (далёкую) школу.

Леанід Кудзін вельмі ўсхваляваны сытуацыяй, якая склалася вакол беларускіх клясаў у СШ №96, зьвярнуўся ў *Праваабарончы цэнтр „Вясна - 96"*. Л. Кудзін узгадаў, што калі чатыры гады таму яго сын пайшоў у школу, усе першыя клясы былі беларускія.

***(Праваабарончы цэнтр „Вясна - 96".***
***Матэрыялы падрыхтаваў Алесь Бяляцкі)***

# У БЕЛАРУСІ АРЫШТОЎВАЮЦЬ ЗА ПАЛІТЫЧНУЮ ПРЫНАЛЕЖНАСЬЦЬ

Падчас правядзеньня ў ліпені 1998г. традыцыйнага эстраднага фестывалю „Славянскі базар" сябры *Віцебскай Рады БНФ* ***Уладзімер Плешчанка, Барыс Хамайда*** і ***Юры Карпаў*** былі затрыманыя тройчы. Два затрыманьні былі праведзеныя падчас выступленьня прэзыдэнта А.Лукашэнкі. Сябры *Віцебскай Рады БНФ* былі абвінавачаныя ў згвалтаваньні малалетняй. Іх пратрымалі тры гадзіны ў РАУС Кастрычніцкага раёну Віцебска і — адпусьцілі без тлумачэньняў.

***(ПЦ „Вясна - 96")***

# ЗАЯВЫ УЛАДЗІМЕРА ПЛЕШЧАНКІ

*10 верасьня* Ул. Плешчанка, які быў затрыманы па справе зьнікненьня бюста Ал. Суворава, падаў 2 заявы. У заявах, скіраваных у суд і пракуратуру, ён патрабуе свайго вызваленьня, бо яму не былі прадстаўленыя доказы ўдзелу ў зьнікненьні бюсту.

Вынесеныя супраць яго артыкулы Ул. Плешчанка прызнае няслушнымі. Уладзімер ня лічыць сябе Міронам, які, пакінуўшы цыдулку, узяў на сябе адказнасьць за дэмантаж бюсту. Як вынікае з заявы, сп. Плешчанка ўхваляе дзеяньні Мірона, аднак не атаясамлівае сябе з гэтай гераічнай асобаю. Па словах Уладзімера, *для яго гэта быў бы дужа вялікі гонар*. Арт. 201 КК Беларусі (злоснае хуліганства з выключным цынізмам і дзёрзкасьцю) ён лічыць несуадносным з дэмантажом бюсту Суворава. Абраза беларускай грамадзкасьці не ва ўчынку Мірона, а якраз у тым, што гэтулькі гадоў бюст генералісімуса акупацыйнай арміі стаяў каля гарадзкога ваенкамату, адкуль беларускія дзецюкі выпраўляюцца абараняць айчыну. Такія помнікі павінны знаходзіцца ў Расеі, дзе ён — нацыянальны герой. А тут, на нашай зямлі, ён абражае нацыянальную годнасьць жыхароў Беларусі.

Па зьвестках прэсавай службы УУС, бюст быў знойдзены ў адным з двароў, непадалёк ад месца здарэньня.

Цікава, якім жа чынам мог занесьці яго туды 50-гадовы Ул. Плешчанка, які да таго ж раней перанёс інфаркт, калі з гэтым гіпсавым бюстам ледзьве ўправіліся амаль паўтузін здаровых міліцыянтаў.

*А 8-га верасьня, у дні нацыянальных сьвятаў, над Лёзна на 50-мятровай вышыні, на тэрыторыі электрасетак, залунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Да сьцяга была прымацавана цыдулка за подпісам* ***Мірона.***

***(Паводле матэрыялаў беларускай рэдакцыі радыё „Свабода")***

***Зянон ПАЗЬНЯК*** ***Да 10-годдзя БНФ***

# КУРАПАТЫ. 10 ГАДОЎ ПАСЬЛЯ

На дне магільных ям у Курапатах, дасьледуючы рэшткі забітых, у цішыні (бо ўсе маўчалі) я шмат што перадумаў пра жыцьцё і людзей. Бязбожныя камуністы ў сваёй філясофіі, мастацтве, ідэалёгіі і асабліва ў выхаваўчай сыстэме ўнікалі развагаў і нават тэматыкі сьмерці. Канцэнтрацыя ўвагі на сьмерці лічылася ўпадніцтвам, пэсымізмам, ледзь не антысавецкімі поглядамі. І гэта ня гледзячы на тое, што сьмерць існуе, і што кожны памрэ.

Развагі аб сьмерці прыводзяць да развагаў пра вечнасьць. Думаньне пра вечнасьць прыводзіць да Бога. Таму бальшавікі, што любілі забіваць, не любілі разважаньняў пра сьмерць. Асэнсаваньне сьмерці разбурае матэрыялістычную сьвядомасьць. Менавіта слова „сьмерць" асацыявалася ў мяне з камунізмам. Камунізм роўна сьмерць.

Што мяне ўразіла найбольш у час працы над дасьледваньнем Курапатаў? Сьпяваньне птушак. З сырога дна магілы відаць верхавіны соснаў і бяроз, асьветленых сонцам. Пляскоча лісьце. Шуміць хвоя, нібы мора, і пошум ветру зьліваецца з птушынымі галасамі. Голас сусьвету.

— А вось і тады гэтак птушкі сьпявалі, — пачуў я наверсе голас сьледчага пракуратуры. Я вылез з магільнай ямы. Сьледчы крымінальнага вышуку (які па роду службы чаго толькі ня бачыў: і трупы з адрэзанымі галовамі, і

згвалтаваньні) стаяў зь вільготнымі вачыма, задраўшы галаву ля магілы і слухаў, як'сьпявае сінічка.

Узьдзеяньне Курапатаў на людзей было незвычайнае. Гэта я ведаў. Але тады падумалася: „Кепскія твае справы, хлапец. Ня бачыць табе кр'еры ў бальшавіцкай пракуратуры як сваіх вушэй." Так яно і сталася. Занадта шмат чалавечага ды разумнага.

Сінічка скакала з галінкі на галінку, круцілася, ціўкала, была занятая толькі сабой. Яна не зьвяртала на нас аніякай увагі. Шумела лісьце, і сьпеў птушыны сьлізгацеў па бярозавым ствале. А ўнізе мы з сваёй маркотай. Хто мы? Што мы тут робім? Па чым плачам? Пяцьдзесят гадоў назад, як і цяпер, шумела хвоя і абыякава сьцідала голкі на астыглыя бледныя твары. Калісьці ляцела сарока ў Грунвальдзцкі лес. На кару сеў чырвоны матыль, як тысячу гадоў.., як дваццаць тысячаў гадоў назад, калі толькі зыйшоў, адступіў ледавік. І тады мне ўспомнілася:

Раз у тысячу год
Прылятае сінічка да сіняга мора
І пробуе дзюбкай марскую ваду.
Калі сінічка вып'е ўсё мора,
Пройдзе адно імгненьне вечнасьці.

* * *

Мяне ўразіла таксама маўклівая пакорнасьць і поўнае неразуменьне таго, што адбываецца, у тых, каго забівалі камуністы. Быццам гэта былі ня людзі, а блохі ці мурашкі, быццам гэта быў не народ. „За што?" — было традыцыйнае пытаньне перад расстрэлам. І ніхто (амаль ніхто) не імкнуўся ўцячы.

На што чалавек спадзяваўся, калі пытаў „за што?", бачачы, што прывезьлі яго забіваць? На справядлівасьць? На цуд? На літасьць катаў? Бандытаў жа толькі раззадорваюць такія пытаньні.

Людзі не ўсьведамлялі сутнасьць генацыду і сэнсу расстрэлаў, бо гэта было вышэй іхняга разуменьня. Яны рэагавалі на забойства як маральныя хрысьціянскія асобы, выхаваныя ў такіх паняцьцях, як *„справядлівасьць", „віна", „грэх", „пакараньне".* Яны ўспрымалі бальшавікоў як начальства, як уладу і не разумелі, як можна караць невінаватых.

Ноччу ня спалі. Прыслухоўваліся, ці не загудзе машына. Бо забіралі ноччу. Але, калі машына гула, то не хаваліся і не ўцякалі. Муж зьбіраўся, дрыжачымі пальцамі зашпільваў гузікі і глухім голасам казаў жонцы: „Гэта памылка, дарагая, разьбяруцца — і я вярнуся." Пасьля такіх дзяжурных і фальшывых словаў чалавек зьнікаў назаўсёды.

Страшны вопыт Курапатаў павінен навучыць кожнага. Народ ня можа быць безабаронным. Людзі павінны разьбірацца ў падзеях і адрозьніваць свайго ад чужога. Калі сьляпыя і глухія, то могуць перабіць усіх, а тыя — яшчэ і падзякуюць за забойства: „спасіба парціі". Але галоўнае — супраціўляцца, не маўчаць, не жаліцца ворагам, нічога ў іх не прасіць. Народ, які змагаецца — перамагае акупацыю ня сілай, дык духам, ня зброяй, дык розумам.

Беларусы пад бальшавікамі былі ў большасьці пазбаўленыя нацыянальнай ідэі. Таму яны ня ў стане былі змагацца. Грамадзтва пісала даносы на сваіх, займалася самаедзтвам. Задавала пытаньне „за што?".

За што? А за тое, што былі беларусамі. Аднак гэта беларусам цяжка было зразумець.

У шасьцідзесятых гадах, памятаю, студэнтам я езьдзіў на прымусовыя работы ў калгас на Случчыну капаць бульбу. Гаспадыня хаты, дзе я жыў, старая кабета расказала мне, як да вайны ў іхняй вёсцы па вуліцы хадзіў бальшавік з наганам і страляў людзей. Усіх падрад. Убачыць каго на вуліцы: хлоп — і застрэліў. Убачыць праз плот кабету ў агародзе: хлоп — і забіў. Убачыць пад грушай дзіцятка на гушкалцы гушкаецца — прыцэліўся: хлоп, хлоп, хлоп — трапіў.

Гаспадыня, ратуючыся, забегла ў сенцы і крыкнула: „Дзеці, хавайся!" Толькі дзеці залезьлі пад ложак, як бальшавік у хату ўскочыў і адразу ў яе стрэліў. Потым пад ложак пастраляў. Хлопчыка забіў, а дзяўчынка і сама яна — маці — выжылі.

— Чаму вас забівалі? — спытаў я ў кабеты.

— А гэта таму, пэўна, што мы каталікі, — быў адказ.

* * *

Скончыліся археалягічныя дасьледваньні Курапатаў, а праз нейкі час і сьледзтва. Камуністы загналі сябе ў глыбокі кут. Дзяржаўная камісія, якую яны стварылі, нічога не хацела прызнаваць і не прымала рашэньняў.

У гэты час інфармацыя пра Курапаты пайшла за мяжу. Пачаўся наплыў журналістаў і здымачных групаў з усяго сьвету. Я нікому ні ў чым не адмовіў. Амаль год працаваў разам зь імі, вазіў па мясьцінах расстрэлаў, паказваў доказы, прадметы, знаёміў зь відавочцамі. Бывала, быў заняты цэлымі днямі і тыднямі. Я разумеў, што чым больш людзей будзе ведаць праўду, тым менш месца застанецца для хлусьні.

У гэты час, спачатку эстонцы, а потым латышы стварылі народныя франты і пачалі змаганьне за незалежнасьць. Гэта быў такі радасны час, што здавалася — вырастаюць крыльлі. Адчувалася, што надыходзіць канец камунізму, канец праклятай імпэрыі зла.

У канцы жніўня 1988 года група людзей, куды акрамя мяне ўваходзілі *Міхась Дубянецкі, Алег Белавусаў, Алесь Лукашук* і яшчэ некалькі чалавек, пачала рэгулярна зьбірацца і працаваць над статутам новай грамадзкай арганізацыі, пасьвечанай змаганьню за гістарычную праўду па выяўленьні сталінскіх злачынстваў супраць народа. Рабочая назва арганізацыі была *„Камітэт -58".* Меўся на ўвазе 58-мы артыкул Крымінальнага кодэксу СССР, па якім арыштоўвалі і каралі ворагаў народа.

*Устаноўчая канфэрэнцыя адбылася 19 кастрычніка 1988 года ў Менску ў Чырвоным касьцёле Сымона і Алены,* у якім тады разьмяшчаўся *Дом кіно.* Дэлегаты прыехалі з усёй Беларусі. Усё рыхтавалася па магчымасьці таемна і вельмі хутка, бо правесьці такі сход тады ў БССР было практычна немагчыма. Добра, што Саюз кінематаграфістаў пайшоў насустрач і даў памяшканьне, нягледзячы на партыйны ціск і супроцьдзеяньне.

Я папрасіў, каб абслуга канфэрэнцыі прыйшла ў *Дом кіно* за дзьве гадзіны да пачатку, каб кантраляваць сытуацыю і запабегчы магчымаму захопу будынка кадэбістамі. Як у ваду глядзеў. Нашы людзі прыйшлі першымі. Але тут жа пачалі зьяўляцца тыпы ў аднастайных шэрых касьцюмах зь нейкімі сабачымі вачыма. Неўзабаве іх набралася ўжо 70 чалавек. Моўчкі шнырылі па закутках і зыркалі на нас. Але мы кантралявалі ўсе іх перамяшчэньні. Яны аказваецца проста хацелі пранікнуць у залю без запросінаў і заняць месцы.

Пачалі прыбываць дэлегаты канфэрэнцыі. Па тым, што яны прыходзілі заранёў, мы зразумелі, што людзей будзе шмат, і вырашылі пусьціць у залю сабакавокіх. Увесь іхні інтэлект быў напісаны на іхных тварах, а галасоў нам хопіць, думалі мы. Аднак потым валам паваліла рэспубліканская пракуратура амаль у поўным складзе на чале з намесьнікам пракурора, прыйшлі інструктары ЦК, гарвыканкамаўскія чыноўнікі, райкамаўскія дамы ў строгіх касьцюмах і „нецерпяшчыя вазражэній".

З прыблізна 350 — 370 прысутных больш ста асобаў было камуністычнае начальства і сабакавокія. Яны тут жа далі нам бой, але прайгравалі пазыцыю за пазыцыяй. Калі справа дайшла да галасаваньня, начальнікі і агентура запатрабавалі дэмакратыі, каб галасаваць усім прысутным, і ім таксама. Мы згадзіліся. Нас гэта не палохала, бо дыскусія, якую мы выйгралі, паказала, што 2/3 прысутных у залі — за нас.

Кіраўніцтва новай арганізацыі было выбрана, Статут прынялі, таварыства стварылі. Назвалі яго — ***„Мартыралёг Беларусі".***

* * *

Але самае цікавае здарылася ў канцы, дзеля чаго і зьбіралася гэтая канфэрэнцыя па стварэньні *„Мартыралёгу".* Было прапанавана стварыць тут *Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту.* Начальнікі трапілі, што называецца, як мухі ў патаку. І, зразумеўшы, куды ўскочылі, „палезьлі на сьцяну". Але гэта выклікала толькі сьмех. Заля раўла ад захапленьня і пачуцьця сваёй перавагі. Я прапанаваў сьпіс кандыдатураў у *Аргкамітэт.* У тых умовах дзейнічаць трэба было менавіта так.

Нейкі начальнік з ЦК КПБ па прозьвішчу Бузук кінуўся на трыбуну, вырваў мікрафон і, як сапраўдны бальшавік, паспрабаваў павесьці сход за сабой. Заля ашалела ад такога нахабства. Ох, як, аказываецца, не любілі „парцію". Але Бузук заікаючыся бубнеў сваё. Яго спыніў ***Васіль Быкаў***, якога мне рэдка прыходзілася бачыць у гневе.

— А дземакрація! — адчайна залемантаваў нехта з „падначальства", — гдзе дземакрація?

— Дэмакратыя на месцы, — адказаў я, — вашыя прапановы? Каго вы прапануеце ў *Аргкамітэт БНФ*? — Падначальнік асекся. Ён быў непадрыхтаваны. Не пракурора ж выстаўляць, не начальства з райкама.

— Прапануйце сябе, — падказаў я яму, — а мы прагаласуем.

— Нет, я нет, — адмовіўся „таварышч".

Прапановы з залі былі, і да майго сьпісу дабралі яшчэ 12 чалавек. Але гэта былі людзі, якіх ведалі, і тыя, хто трэба.

Перамога была поўная. Я пайшоў віншаваць начальства.

— Віншую вас, таварыш Бузук, з актыўным удзелам у гістарычнай падзеі: стварэньні *Беларускага Народнага Фронту.* Жыве Беларусь!

— Вы ешчо атвеціце, — прашыпеў той і патульчыў на выхад.

— Віншую вас, Уладзімір Кандратавіч, з пасільным удзелам у стварэньні *Беларускага Народнага Фронту.*

Намесьнік пракурора БССР з разуменьнем усьміхнуўся і гэтак даверліва: — Я вам вот што скажу, в каждам таком дзеле нужна дземакрація. І прэждзе всево — дземакрація.

— Дык была ж дэмакратыя, Уладзімір Кандратавіч, была, разам з вамі сядзела.

— А вот дземакраціі-то как раз і не была, таварышч Пазьняк, не была, — перайшоў на афіцыйны тон мой субяседнік і дзелавіта пайшоў да дзьвярэй.

* * *

Назаўтра газэты разьнесьлі нас ўшчэнт. Аказваецца, мы няправільна разумелі „перастройку". Але генеральны разнос быў наперадзе. Стала відавочным, што камуністы, атрымаўшы па носе, ад нечаканасьці зусім страцілі арыентацыю. Падступны вораг ім ўжо здаваўся пад кожным кустом.

Справа ў тым, што яшчэ летам, калі толькі стварыліся прыбалтыйскія народныя франты, першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў урачыста запэўніў Маскву, што ў Беларусі „нікакова фронта не будзет". Але пасьля адкрыцьця Курапатаў „запахла" Фронтам і ў Беларусі. Тады 8 жніўня цэкоўскія мудрацы сабраліся на Бюро ЦК і па прыкладу некалі дрэннай памяці расейскага жандармскага генерала Зубатава рашылі самы стварыць Народны Фронт (гэта значыць, падсадную качку), каб павесьці народ да перабудовы.

Таемнае рашэньне Бюро ЦК аб стварэньні Беларускага Народнага Фронту было прынятае, а справа арганізацыі яго даручана Пятру Краўчанку, тадышняму сакратару па ідэалёгіі Менскага гаркама КПБ і цяперашняму лукашэнкаўскаму паслу ў Японіі. Усё спачатку ішло для камуністаў быццам бы „харашо". І раптам нечакана *Народны Фронт* ствараецца не камуністамі, а антыкамуністамі. Пры тым — сапраўдны *Фронт.* Было ад чаго замітусіцца. На цэкісцкіх мудрацоў хапіла прастаты.

Пра стварэньне Фронта тады ў Беларусі паўсюдна гаварылі і крычалі розныя маргіналы, перабудовачныя „казнадзеі" і проста агентурныя правакатары. Стварыць звычайным спосабам прадстаўнічы і варты даверу Аргкамітэт Фронту ў такіх умовах было немагчыма. Таму і рашылі выкарыстаць *„Камітэт-58"* і арганізацыю *„Мартыралёгу".*

Былі, што называецца, вытрыманыя ўсе правілы. І галоўнае зь іх: калі хочаш датрымаць сакрэт, то пра яго павінен ведаць толькі адзін чалавек, гэта значыць той, хто яго ведае. Не было ніякіх намёкаў пра Фронт. Калі ўзьнікалі размовы, то я тут жа нешта казаў супраць арганізацыі Фронта. Усё гэта, безумоўна, лавіла чуйнае вуха агентуры.

Калі ўжо ўсё было падрыхтавана па арганізацыі Установчай канфэрэнцыі „Мартыралёгу" і складзены сьпіс Аргкамітэту БНФ, тады з плянам стварэньня Фронту былі пазнаёмленыя два чалавекі, на слова якіх можна было абаперціся, як на рыцарскае кап'ё — гэта ***Міхась Дубянецкі*** і ***Васіль Быкаў.*** Яны ведалі ўсё, і з гэтага часу мы дзейнічалі разам.

Заля Дома кіно была ўжо перапоўненая. Пара пачынаць. Я адвёў у бок уласьніка залі Старшыню Саюза кінематаграфістаў Вячаслава Нікіфарава і сказаў:

— Мой абавязак вас папярэдзіць: на канфэрэнцыі будзе створаны *Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту.*

— Тут Бузук сядзіць у мяне ў кабінэце, — упалым голасам сказаў Нікіфараў.

— Дык вось і скажыце яму, а мы пачнем канфэрэнцыю.

Я ўвайшоў у залю і папярэдзіў некалькі чалавек пра тое, што мае быць. У гэты час падышоў Васіль Уладзіміравіч Быкаў і кажа, што там Бузук з ЦК кліча мяне ў кабінэт.

— Толькі спакойна, — парадзіў Быкаў.

Спакойна не атрымалася. Бузук з цэкісцкім аплёмбам пачаў гаворку ў стылі „Кто дал права?" і „Кто вы такой?". За сьпіной нецярпліва шумела заля, гублялася хвіліна за хвілінай. І мне нічога не заставалася, як рэзка спыніць аплёмб начальніка.(Ад чаго, як мне падалося, у яго стаўся поўны параліч мазгоў. Цэкісцкія чыноўнікі былі непрывыклыя да такіх паваротаў.)

* * *

Калектыўны параліч мазгоў назіраўся ў камуністаў і пасьля канфэрэнцыі. З гэтай прычыны атрымаўся пацешны кур'ёз.

Быў тады ў Менску дыскусійны клюб *„Современник",* які ўзначальваў Леў Крывіцкі. Дыскутавалі пра перабудову і ўсялякія разумныя рэчы. Праз тры дні пасьля канфэрэнцыі *„Мартыралёгу"* якраз было паседжаньне клюбу ў вялікай залі Дома палітасьветы. Кіраўнікі ЦК КПБ, якія ахвотна жылі чуткамі, чамусьці вырашылі, што гэта зноў іх зьбіраюцца абдурыць. Паседжаньне клюбу, маўляў, для адводу вачэй, а на самай справе Аргкамітэт БНФ будзе там утвараць Фронт. Камуністы хутка правялі мабілізацыю сярод ветэранаў, стукачоў і вернага партыі рабочага кляса.

Паседжаньне клюбу ўжо пачалося, калі чарадой пайшлі ветэраны. У гэты час пад'ехала з дзясятак велізарных аўтобусаў з Трактарнага завода і ўзбуджаны натоўп у дзевяцьсот чалавек з ровам уваліўся ў залю.

У вялікай залі якраз сядзела чалавек з трыццаць і дыскутавалі на тэму кшталту „мэтраманіяльныя элемэнты сэнсарнага разьвіцьця электаральных паводзінаў у прагназуемых сыстэмах мажарытарнай дэмакратыі".

— Прашу слова, слова прашу! — пачуліся галасы. На сцэну ўзьдзямберыўся сьлесар-фрэзероўшчык, дастаў паперку, разгарнуў і ўдарыў па „нефармалах"...

— Народу, каторый выстаял і пабедзіл, не нада франтов, — скончыў фрэзероўшчык.

Выступоўцы палезьлі на сцэну, як туркі на штурм Канстантынопаля. Леў Крывіцкі, які так і ня скончыў крытыкаваць Гаека з пазыцыяў Фрыдмана, толькі галавою круціў. Ён нічога не разумеў. Гразмілі Фронт. У канцы зачыталі і прынялі рэзалюцыю супраць стварэньня Фронту.

Назаўтра камуністы заадно зачынілі клюб *„Современник"* і пазбавілі дыскутантаў памяшканьня. Памятаю, як разгублены Крывіцкі бегаў па Менску бяз шапкі і лемантаваў.

*(Працяг будзе)*

# 23-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

*5 — 6 верасьня ў Нью-Брансьвіку ля Нью-Ёрка* адбылася традыцыйная *23-я сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.* Былі госьці зь Беларусі, Летувы, Аўстраліі, Польшчы. Усіх аб'ядна ў непакой за лёс незалежнасьці і свабоды Бацькаўшчыны.

Беларусь перажывае цяжкі і ганебны пэрыяд гісторыі. Але відаць было, што гартуецца новая сіла. Ёсьць трывога, але ёсьць і вера.

Адбыўся абмен думкамі, былі даклады і выступы, прывітаньні і песьні, меркаваньні і роздум.

# ВЫСТУП СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

## (Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі 6-га верасьня 1998 г.)

Больш за сорак гадоў мы зьбіраліся (што два гады), каб спаткацца, але таксама, каб ушанаваць нашую супольную спадчыну, выказаць вернасьць паняволенай Бацькаўшчыне, аб існаваньні якой усе мы стараліся інфармаваць вольны сьвет тады, калі Масква запэўнівала, што Беларус і Расеец — гэта той самы савецкі чалавек.

Нарэшце прыйшоў дзень вызваленьня. Без змаганьня, без праліву крыві народу нашаму быў дадзены шанс адрадзіцца. Праўда, умовы ня былі ідэальныя. Пару гадоў перад тым 70 адсоткаў Чарнобыльскай радыяцыі асела ў Беларусі.

Шансу народ не заўважыў. Затое спадзяваўся, што ўвесь сьвет яму дапаможа перажыць чарнобыльскі боль.

На жаль, Беларусь не была прыярытэтам для Захаду, а мы не былі прыгатаваныя. Заходняя дапамога даходзіла ў Беларусь праз Маскву і, безумоўна, Масква і яе паплечнікі — былая намэнклятура — выкарысталі гэтую акалічнасьць. Зноў пачалася прапаганда (якою цяперашняя ўлады штодзённа карыстаюцца), што Беларусь бедная, ня мае ніякіх рэсурсаў, што толькі ў складзе „заможнай" Расеі яна палепшыць сваю долю.

Якая кароткая людзкая памяць! Вынікі нам усім вядомыя: выбар Лукашэнкі, рэфэрэндумы, шлях да інтэграцыі. Нават зьдзек над усім беларускім (над нашай мовай, над нашай будучыняй — моладзьдзю) ня можа разбудзіць аслаблены Чарнобылям народ, якога адзінай мэтай зноў ёсьць толькі *пражыць да заўтра.*

Наш разумны беларускі народ перастаў думаць. Асьлепшы, ідзе назад у няволю. Хай мне прабачаць за гэтыя словы ўсе тыя, што змагаюцца сёньня ў Беларусі за волю і незалежнасьць, за людзкія правы. На жаль, за шмат ёсьць тых, іншых, якія не разумеюць, што інтарэсы Беларусі не супадаюць зь інтарэсамі Расеі, ды што толькі ў сваёй уласнай дзяржаве беларускі народ можа асягнуць лепшую долю.

Усім нам баліць сэрца на гэтае гледзячы. Але Вы ведаеце, і я ведаю, што сьлёзы нам не памогуць. Дык што нам рабіць?

*Перад намі два заданьні:*

*Адно* — гэта разбудзіць наш народ. *Другое* — даказаць сьвету, што Лукашэнка не прадстаўляе нашай бацькаўшчыны, што гэта паразыт, які працуе не для Беларусі, а для нашых ворагаў, мэтай якіх ёсьць або нас фізычна вынішчыць, або поўнасьцяй асымілявацць у варожую нам культуру. Дзеля гэтага ізалюе наш край, робіць зь яго насьмешкай сьвету. *Заданьнем **КОЖНАГА БЕЛАРУСА** ёсьць супрацьдзеіць гэтаму.*

***ЦЯПЕР МЫ МУСІМ** даказаць сьвету*, што *Дразды*, забойствы нявінных амэрыканскіх спарцмэнаў, вымаганьне мытнай аплаты за гуманітарную дапамогу ахвярам Чарнобыля, захапленьне гітлераўскім парадкам, імітацыя сталінскага мэтаду змаганьня з апазыцыяй, парушэньні правоў чалавека, цэнзура — гэта ўсё зьяўляецца *нападам* перад усім ***НА БЕЛАРУСКІ НАРОД***! Так, як Слабадан Мілошавіч ганьбіць увесь сэрбскі народ сваімі паводзінамі ў былой Югаславіі, Лукашэнка ганьбіць увесь беларускі народ сваімі паводзінамі як унутры, так і навонкі Беларусі. Як тут кажуць, ***WE ARE BEING FRAMED***!

Трэба, каб зразумеў гэта таксама беларускі народ. Цяперашні эканамічны крах у Расеі можа да гэтага спрычыніцца. Але трэба памятаць, як цяжка чалавеку прызнацца, што ўсё, чаму яго вучылі ад маленства, увесь яго сьвет — гэта ілжа. Дзеля гэтага якраз старэйшыя людзі так ахвотна слухаюць Лукашэнку, бо ён ім кажа тое, што яны хочуць чуць, а менавіта, што яны не абдураны люд, што іхнія вартасьці рэальныя, сапраўды існуюць.

Толькі моладзь, якая расла ў васемдзесятых ды ў пачатку дзевяцьдзесятых гадоў, здольная аб'ектыўна разрозьніць праўду ад няпраўды. Яна нашая надзея, і дзеля гэтага рэжым так моцна стараецца знэўтралізаваць яе тэрорам. Дзеля гэтага судзілі ***В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага.*** Дзеля гэтага гэты апошні яшчэ ў зьняволеньні.

*Я веру, што яны будуць змагацца да перамогі.*

Дык нам трэба брацца за працу.

Пераконваць сьвет аб геапалітычным значэньні Беларусі, аб тым, што Беларусь — краіна багатая, так як багатая Данія ці Швайцарыя, таленавітасьцю і працавітасьцю свайго народу. Што не народ гэты, а Лукашэнка і яго чужое для нас акружэньне адказнае за цяперашні імэдж Беларусі ў сьвеце.

Пераконваць наш народ, што ён здольны (***кожны з нас — здольны***) зрабіць з сабою што захоча, што ён можа стацца заможным гаспадаром у сваёй уласнай, ветлай, прыгожай краіне, калі не дазволіць чужынцам над ім зьдзекавацца ды яго эксплатаваць.

*Рада БНР* працуе над практычнымі спосабамі, як перадаць гэтую інфармацыю. Што нам трэба зрабіць, каб нас пачулі? Гэтымі днямі ўсе мы над гэтым думаем. Усе Вашыя выказваньні будуць узятыя пад увагу. Калісь амэрыканскі

прэзыдэнт Кэнэдзі казаў: „Ня пытайце, што край гэты можа зрабіць для Вас, пытайцеся, што Вы можаце зрабіць для гэтага краю." Сёньня прашу Вас задумацца, ***ШТО*** кожны можа зрабіць, каб жыла Бацькаўшчына. Уклад кожнага важны. Прыпомню тут словы Караткевіча: ***„І АДЗІН МОЖА!"***

Дык жадаю Вам плёну ў працы!

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

***Івонка СУРВІЛА***
***Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі***

# ШЛЯХ СТАГОДДЗЯ

## (Выступ на Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі 6 верасьня 1998 г.)

23-е спатканьне беларусаў Паўночнай Амэрыкі — гэта наш апошні збор у XX стагоддзі. Варта азірнуцца і паразважаць. Паразважаць аб тым, што будзе зь беларусамі. Лічу, што пра гэта трэба гаварыць заўсёды, калі мы зьбіраемся разам.

Чым было для нас, беларусаў, XX-е стагоддзе? Гэта быў час няспраўджаных надзеяў і барацьбы за народнае выжываньне. Гэта быў час трагічны. Нагадаю клясычнае вызначэньне трагедыі — гэта тады, калі герой гіне, а ідэі яго жывуць і перамагаюць. *Беларуская трагедыя XX стагоддзя ёсьць трагедыя клясычная.*

Пачатак стагоддзя асьвяцілі вялікія ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня і вялікая літаратура. Трагічны вяшчун, прарок беларускага адраджэньня ***Янка Купала*** характарызаваў яго так: *„Гэта бітва йдзе сусьветна між сьвятлом і апраметнай." Ён клікаў да змаганьня* ***„на Вялікі Сход па Бацькаўшчыну".***

Дваццатае стагоддзе для беларусаў сапраўды стала бітвай паміж сьвятлом і сіламі цемры, бітвай, якая забрала мільёны жыцьцяў лепшых людзей Беларусі. Яно стала для нас вечным шляхам *„па Бацькаўшчыну".*

Што мы, беларусы, набылі і што страцілі ў гэтай дарозе і ў вечнай вайне?

*Самы вялікі наш нацыянальны набытак у XX стагоддзі* — гэта стварэньне і аб'яўленьне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. ***Ідэалы 25 сакавіка ёсьць для нас ідэалы стагоддзя.*** Усё, чаго ўдалося дасягнуць у афармленьні беларускіх ідэяў і ў прынцыпах нацыянальнага ўпарадкаваньня, — усё гэта было зроблена ў першыя 20 гадоў яшчэ да бальшавіцкай акупацыі Беларусі.

Панаваньне бальшавікоў — гэта час зьнішчэньня і разбурэньня таго беларускага, што было дасягнута і мела разьвівацца: беларускіх людзей, памяці, школы, навукі, культуры, рэлігіі, літаратуры, нацыянальнага сумленьня, сьвядомасьці і свабоды чалавека. За камунізмам, калі выключыць адзінкавыя прыклады, нічога не было створана нацыянальна-станоўчага і нацыянальна-значнага, акрамя фальшывых каштоўнасьцяў тыпу беларускай савецкай літаратуры ці савецкага мастацтва.

Кароткі ўздым нацыянальнай беларускай дзейнасьці назіраўся за немцамі ў пэрыяд 2-й Сусьветнай вайны, але ён ня быў вынікова рэалізаваны, бо не набраў сілы.

*Што страчана ў XX стагоддзі?* Страчана амаль палова нацыянальнай тэрыторыі *БНР.* Страчана каля 14 мільёнаў патэнцыяльных беларусаў, зь іх больш 3-х мільёнаў забіта ў сапраўднасьці ў час войнаў і бальшавіцкага генацыду.

Усе краіны вакол нас за 100 гадоў павялічылі сваё насельніцтва больш чым у два разы. Не павялічыла толькі Беларусь. На пачатак 1921 года перад падзелам БНР паміж заходнімі і ўсходнімі акупантамі тэрыторыя нашай Дзяржавы складала агулам *400 тыс. кв. кілёмэтраў,* а насельніцтва — *14 мільёнаў чалавек.* (Нагадаю, цяпер маем *208 тыс. кв. кілёмэтраў* і насельніцтва у гэтых межах — *10 мільёнаў чалавек.*) Але ў цэлым яно і цяпер не перавышае 14 мільёнаў. За гады савецкай акупацыі найбольш вымер беларускі ўсход. (Насельніцтва некаторых раёнаў Смаленшчыны, напрыклад, скарацілася ў 10 разоў.)

*У 1993 г. рост насельніцтва ў Беларусі спыніўся. З 1994 года* (што супадае з пачаткам прэзыдэнцтва Лукашэнкі і ўнутранай акупацыі Беларусі) *пачалося выміраньне беларусаў.* Кожны год памірае на 80 тысячаў больш, чым нараджаецца. Гэта ў сярэднім колькасьць жыхароў аднаго раёна Беларусі. Кожны год памірае адзін раён. Усіх 119 раёнаў. Арыфметыка такая, што калі працэс не спыніць, то 21-е стагоддзе можа стаць стагоддзем поўнага выміраньня беларусаў і канцом беларускай нацыі.

Пасьля ліквідацыі дыктатуры і акупацыйнага рэжыму на Беларусі пытаньне натуральнага прыросту насельніцтва павінна стаць адной з галоўных задачаў нармальнага кіраўніцтва краінай і ўсяго беларускага грамадзтва.

73 гады бальшавіцкай акупацыі нанесьлі беларускаму народу велізарныя страты матэрыяльнага і духоўнага кшталту. Але найвялікшай стратай XX стагоддзя ёсьць для беларусаў страта гістарычнай, культурнай і духоўнай сталіцы *Вільні.* Ніякая страта ня можа параўнацца са стратай цэнтра, галавы і сэрца нацыі.

Пасталелае вольнае беларускае грамадзтва будучыні абавязкова сутыкнецца з праблемай існаваньня духоўнай сталіцы народа і адраджэньня гістарычных цэнтраў беларускага дзяржаўнага існаваньня. Архітэктурнае, полікультурнае і сацыяльнае аднаўленьне старажытных сталічных гарадоў *Наваградка, Полацка* і нават *Нясьвіжа* паўстане ня толькі задачай культуралёгіі, але практычнай неабходнасьцю кампэнсацыі за Вільню, за найвялікшую, як было ўжо адзначана, духоўную і культурную страту беларускага грамадзтва.

Гэтая патрэба стане нацыянальнай праблемай у XXI стагоддзі, як толькі грамадзтва сасьпее для яе ўсьведамленьня.

Цяпер жа, напрыканцы „крывавага веку", усе здаровыя нацыянальна сьведамыя сілы Беларусі заклапочаныя, як збавіцца ад акупацыйнага рэжыму і прарасейскай дыктатуры. Тым больш, што падзеі, якія разгортваюцца на ўсходзе — банкруцтва расейскай улады і крах расейскай эканомікі — паказваюць, што Расея стаіць на парозе новага імпэрскага таталітарызму.

У гэтых умовах я паўтару яшчэ раз тое, аб чым пастаянна кажу вось ужо дзесяць гадоў і што добра разумею як гісторык і палітык. ***Жыцьцёвая задача нашага беларускага існаваньня і нацыянальнага разьвіцьця — адмежаваць, вывесьці нашу краіну з-пад разбуральнага ўплыву расейскай палітыкі, спыніць экспансію расейскага імпэрыялізму, штучныя навязаныя нам сувязі і непатрэбныя дачыненьні.*** Гэта даўно зразумелі, напрыклад, грамадзтвы Эстоніі, Латвіі і Летувы, якія не вагаліся ні хвіліны ў выбары сваёй незалежнай празаходняй будучыні. Каштоўнасьці нацыянальнай свабоды паступова ўсьведамляюць і цяперашнія беларусы.

Крытычнае становішча перажыла Беларусь у 1996-1997 гг.. калі расейцы і ворагі беларушчыны на Беларусі поўным ходам

напралом імкнуліся ажыцьцявіць анэксію нашай краіны Расеяй і праводзілі палітыку імпэрскай „інтэграцыі". Цаной неверагодных высілкаў усіх антыдыктатарскіх незалежніцкіх сілаў, і ў першую чаргу *Беларускага Народнага Фронту,* анэксія была чаргова прыпыненая. Нашыя ахвяры: турма, эміграцыя з краіны, арышты, пабоішчы, штрафы, аблавы і катаваньні дзяцей, рэпрэсіі і перасьледы — усё гэта было недарэмна. Недарэмным было нашае змаганьне з рэжымам: дзеяньні ў Беларусі і палітыка на Захадзе. Інтэграцыю пакуль што ўдалося затармазіць.

Але антыбеларускі рэжым існуе і праводзіць пасьлядоўную антынацыянальную палітыку. Цяпер патрэбна прымяніць іншы мэтад у змаганьні супраць дыктатуры: трэба выступіць з сваёй антыакупацыйнай ініцыятывай. *Трэба праводзіць станоўчую канцэптуальную палітыку, якая пакажа шлях і спосаб ліквідацыі дыктатарскага рэжыму. Трэба ствараць альтэрнатыўную рэжыму сілу, памятаючы, што дыктатура на Беларусі моцная не сваёй моцай, а нашай слабасьцю. Трэба паставіць улады і грамадзтва перад рэальным выбарам шляхоў, а не паміж шляхам і пратэстам.*

***Альтэрнатывай палітыцы анэксіі і дыктатуры беларускія вызвольныя сілы прапанавалі стварэньне супольнасьці грамадзянаў Беларускай Народнай Рэспублікі.*** Першым этапам і першай акцыяй гэтай ініцыятывы стала паступовае разгортваньне кампаніі прыняцьця *сымвалічнага грамадзянства БНР.*

Гэтая палітыка мае добрыя пэрспэктывы ў Беларусі, але патрабуе вялікай, арганізаванай і штодзённай працы ўсяго сьведамага беларускага грамадзтва. Пры арганізаваным падыходзе мы можам мець сотні тысячаў грамадзянаў-прыхільнікаў *БНР*, а ў недалёкай пэрспэктыве — мільёны. Гэта ў карані палепшыць становішча, бо дасьць грунт для рэальнага ўвасабленьня беларускай нацыянальнай ідэі і плятформу для шырокага аб'яднаньня ўсіх антыдыктатарскіх незалежніцкіх сілаў Беларусі, не зважаючы на партыйную прыналежнасьць.

Сымвалічным грамадзянствам БНР будуць валодаць рэальныя людзі. Таму з разгортваньнем гэтае справы ўзьнікне магчымасьць рэалізаваць сацыяльныя ініцыятывы грамадзянаў: ствараць, напрыклад, ***Камітэты грамадзянаў БНР***, як некалі ў Эстоніі ці Летуве, утварыць функцыянальныя структуры мясцовага самакіраваньня, выбарчыя камісіі, а пры шырокім руху стварыць нават грамадзкі парлямант і яго выканаўчыя органы. Аднак, каб узьніклі такія магчымасьці, патрэбна найперш мець гэтых людзей, што зрабілі выбар на карысьць *ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Рада БНР* застаецца найвышэйшым органам, хавальнікам цягласьці справы *БНР*, гістарычных традыцыяў і ідэалаў.

Яна не ўмешваецца ў канкрэтную дзейнасьць на Беларусі і стаіць над канкрэтнымі палітычнымі дачыненьнямі. Але сваімі заявамі, зваротамі падтрымлівае агульны якасны ўзровень беларускай нацыянальнай ідэі.

Ёсьць пэўная сымвалічнасьць, пэўны добры знак у тым, што напрыканцы ХХ-га стагоддзя, апынуўшыся ў надзвычай цяжкім становішчы, беларускія адраджэнцы зноў зьвярнуліся да несьмяротнай справы *Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларуская нацыянальная ідэя, беларускае змаганьне з прарасейскім рэжымам і дыктатурай за Беларусь павінны мець выразнае і канкрэтнае ўвасабленьне. Гэтае ўвасабленьне, гэтая мэта ёсьць аднаўленьне БНР.*

***Аднаўленьне Беларускай Народнай Рэспублікі будзе азначаць сапраўдную незалежнасьць, сапраўдную свабоду і сапраўдную дэмакратыю.*** Яно паставіць крыж на савецкай пераемнасьці дзяржаўнай улады і на ўсім савецкім, на ўсіх тых кнорыных, ляндэрах, мясьнікянах ды машэравых. *Новая вольная Беларусь мусіць аднавіць сваё існаваньне шляхам пераемнасьці ад Беларускай Народнай Рэспублікі,* а *пэрыяд БССР* павінен быць патрактаваны *як пэрыяд акупацыі і марыянэткавага дзяржаўнага ўтварэньня.* Толькі тады рэальна можна будзе скончыць з усім савецкім, з прывідамі камунізму і хутка пакрочыць па сваёй беларускай дарозе эўрапейскага разьвіцьця.

Мы, беларускія адраджэнцы, даўно пераканана ступілі на гэты шлях і ня збочым зь яго ніколі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне"***
*6 верасьня 1998г., Нью-Ёрк*

# ЯК Я ЕХАЛА ДА БРАТА

***З. Пазьняку й С. Навумчыку надалей пагражае небясьпека***

Пасьля таго, як мой брат *Сяргей Навумчык* разам зь *Зянонам Пазьняком* атрымаў палітычны прытулак, не праходзіць месяца, каб афіцыйная прапаганда (а то й сам Лукашэнка) не прыгадвалі Пазьняка й Навумчыка, абвінавачваючы іх ва ўсіх сьмяротных грахах — і ў „міжнароднай ізаляцыі краіны", і ў „дэстабілізацыі ўнутрыпалітычнага становішча". Прадметам пільнай увагі стала й наша сям'я. І калі абразьлівыя публікацыі ў газэтах (напрыклад, фэльетон пра „сям'ю здраднікаў" ва ўрадавай газэце „Рэспубліка") спрабуеш не заўважаць, то да няспыннай цікавасьці з боку спэцслужбаў прызвычаіцца цяжка. Прычым КГБ нават і не хвалюе, што наш тэлефон праслухоўваецца. Хаця ім і бяз гэтага вядома, што мы знаходзімся ў апазыцыі да антыдэмакратычнага лукашэнкаўскага рэжыму.

У Віцебскі Ўнівэрсытэт, дзе працуе муж, нават прыходзіў прадстаўнік КГБ і выказваў незадаволенасьць з мужавых „апазыцыйных поглядаў". Некаторыя журналісты пішуць, што Пазьняк даўно не ўяўляе для рэжыму небясьпекі й што ён можа бесьперашкодна вярнуцца на радзіму. Аднак я пераканалася, што гэта ня так.

У канцы ліпеня я вылятала ў Нью-Ёрк з аэрапорту „Менск-2". На мытным кантролі мне ўчынілі сапраўдны допыт — ці не вязу я „апазыцыйную літаратуру" й „падпольныя выданьні".

Відавочна, кіраўнікі мытні не ўяўляюць, што з дапамогаю *„Інтэрнэту"* адным ударам па клявішы можна пераправіць мегабайты „падрыўной" інфармацыі ў любы пункт сьвету. Калі ж мытня была пройдзеная, я падышла да памежнага кантролю. Памежнік, прагледзеўшы мой пашпарт, адразу спыніў мяне.

— Мне трэба параіцца з начальствам, — сказаў ён і правёў мяне ў асобны пакой.

Час ішоў, людзі ўжо прайшлі ў самалёт. Нарэшце, да мяне выйшаў памежнік. Я пацікавілася, у чым прычына затрымкі? Мне не адказалі. Тады я запыталася: „Можа, справа ў маім прозьвішчы?" Памежнік даў зразумець, што менавіта так.

Як вядома, у траўні 1996 году газэта *„Свабода"* паведаміла, што камандуючы памежнымі войскамі Беларусі выдаў загад на ўсе пункты *„грамадзянаў Рэспублікі Беларусь З.С. Пазьняка і С.І. Навумчыка пры ўезьдзе-выезьдзе затрымаць"*, і іх прозьвішчы й ініцыялы занесеныя ў камп'ютары. А я таксама „І.С. Навумчык", бо засталася на дзявочым прозьвішчы.

Вось так нечакана пацьвердзілася, што лідэраў *Народнага Фронту* чакае зусім ня цёплае спатканьне й што *Пазьняк* паранейшаму застаецца для Лукашэнкі „ворагам нумар адзін".

***Сьвятлана НАВУМЧЫК***

## ТРЭЦІ ЗАХОД

Ужніўні 1998 г. былы кіраўнік апарату экс-прэзыдэнта СССР Валеры Болдзін падзяліўся ўспамінамі з журналістамі аб прычынах правалу жнівеньскага кагэбісцка-камуністычнага путчу ў Маскве ў 1991 г. Ён сказаў: „Каб ажыцьцявіць нешта рэальнае, патрэбна добрая арганізацыйная праца. А яе ніхто не праводзіў. І, нарэшце, самае галоўнае парушэньне правілаў. Справа была занадта сур'ёзная, каб яе можна было даверыць генералам. Посьпеху можна было дамагчыся толькі ў тым выпадку, калі б за справу ўзяліся маёры і падпалкоўнікі. Такая ж памылка, дарэчы, паўтарылася і ў кастрычніку 1993 года."

Шчыры Болдзін. У 1994 годзе ў Беларусі з трэцяга заходу КГБ не прайграў. За справу ўзяліся якраз маёры ды капітаны, якія сядзяць цяпер у хунце Лукашэнкі ў генералах.

***П. ЗЯНЮК***

## ЛАТВІЯ БЯРЭЦЦА ЗА ЭНКАВЭДЗІСЦКІХ БАНДЫТАЎ

Аддзел па расьсьледваньні злачынстваў таталітарных рэжымаў Генеральнай пракуратуры Латвіі арыштаваў былога камандзіра савецкага партызанскага атрада **Васіля Конанава**. Яго абвінавачваюць у забойстве ў травені 1944 года дзевяці мірных латышоў. *„Конанаў — ваенны злачынца,* — кажуць абвінаваўцы. — *А ваенныя злачынцы павінны быць пакараныя незалежна ад таго, на чыім баку яны ваявалі."*

У Латвіі, як і ў Беларусі, савецкую партызанку стварыла НКВД. 27-га траўня 1944 года атрад Конанава правёў карную апэрацыю ў маленькай вёсачцы *Баты* Лудзенскага ўезду. Пераапранутыя ў нямецкую форму партызаны дзеля паказальнай акцыі застрашэньня расстралялі дзевяць жыхароў вёсачкі (у тым ліку некалькі дзяцей і цяжарную жанчыну), а хаты іхныя спалілі.

Пасьля вайны Конанаў застаўся ў акупаванай Латвіі. Яго ніхто ня рушыў. Але цяпер пра бандыта ўспомнілі і арыштавалі. Вясной 1998 года Генеральная пракуратура Латвіі арыштавала па абвінавачваньні ў генацыдзе *былых маёраў КГБ* **Ільлю Машонкіна** *і* **Трафіма Якушонка**. Няўтульна стала савецкім забойцам у Латвіі. Масква кажа, што парушаюць іхныя „чэлавечэскіе" правы.

***Т. РЭЙТАН***

## ЛЁС АНТЫБАЛЬШАВІЦКІХ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ — МАЛАДЫХ ЗМАГАРОЎ НА МЯДЗЕЛЬШЧЫНЕ І СМАРГОНШЧЫНЕ

**(гістарычная зацемка)**

*У самым пачатку 1950 г. у Мядзелі і Смаргоні* былі арыштаваныя вучні пераважна старэйшых клясаў. Пасьля працяглых допытаў, у час якіх да большасьці прымяняліся самыя жорсткія катаваньні, 15 зь іх трыбуналам Беларускай ваеннай акругі ў чэрвені 1950 г. у Маладзечыне былі асуджаныя на зьняволеньне ў канцлягерах на тэрмін ад 10 да 25 гадоў. Кіраўнікі ж падпольнай вучнёўскай арганізацыі ***Расьціслаў Лапіцкі*** і ***Факунда Несьцяровіч*** прыгаворваліся да расстрэлу.

Вучні абвінавачваліся ў антысавецкай агітацыі і прапагандзе (пераважна друкавалі і распаўсюджвалі ўлёткі з заклікамі не ўступаць у калгасы і інш., якія заканчваліся словамі „Сьмерць Сталіну!"), а Расьціславу Лапіцкаму, які непаўналетнім, у канцы 1944 г. ўжо ўдзельнічаў ў беларускай падпольнай арганізацыі вучняў Віленскай беларускай гімназіі і Віленскай семінарыі, акрамя ўсяго прыпісвалі падрыхтоўку тэрарыстычных актаў.

На сёнешні дзень вядома, што асуджанымі былі:

***Расьціслаў Лапіцкі*** — вучань спачатку мядзельскай, а потым 10-й клясы смаргонскай школы — *расстраляны ў канцы(?) 1950*;

***Факунда Несьцяровіч*** — былы вучань мядзельскай школы, навучэнец Менскага палітэхнікума — *расстрэл заменены на 25 гадоў лягераў*;

***Восіп Качэрга*** — вучань мядзельскай школы — *25 гадоў лягераў*;

***Ахрамовіч*** — селянін са Смаргоншчыны — *10 гадоў лягераў*;

***вучні смаргонскай школы***:

***Зянон Ахрамовіч*** — *25 гадоў лягераў*; ***Часлава Ашукоўская*** — *(?)*; ***Марыя Барташэвіч*** — *10 (?) гадоў лягераў*; ***Восіп Блізьнюк*** — *25 гадоў лягераў*; ***Канстанцін Іваноўскі*** — *10 гадоў лягераў*; ***Карней*** — *(?)*; ***Зося Лапыцька*** — *(?)*; ***Збігнеў Пашкевіч*** — *10 гадоў лягераў*; ***Эдуард Сташкевіч*** — *25 гадоў лягераў*; ***Тадэуш Хацілоўскі*** — *25 гадоў лягераў*; ***Леакадзія Цыбоўская*** — *25 гадоў лягераў*; ***Чэслаў Цыбоўскі*** — *25 гадоў лягераў*; ***Тамара Юшкевіч*** — *25 гадоў лягераў*; ***Таццяна Юшкевіч*** — *10 гадоў лягераў (была ў дзіцячым працоўным доме, непаўналетняя)*.

Пасьля сьмерці Сталіна асуджаныя былі вызваленыя з канцлягераў (1955–56гг.). Некаторыя вярнуліся настала на Беларусь, частка выехала ў Польшчу, некаторыя — у Летуву і на Украіну. Прыкладна трэцяя частка іх ужо не жыве.

***Міхась ЧАРНЯЎСКІ***

Літ.: Чарняўскі М. Расціслаў Лапіцкі - з кагорты невядомых герояў // Беларуская маладзёжная, 1977, №1; ён жа. Да гісторыі мядзельска-смаргонскага вучнёўскага падполья // Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі. Матэрыялы навукова-практычнай канфэрэнцыі (Менск, 27—28 лютага 1998г.)

## КАРУПЦЫЯ

Нямецкія дасьледчыкі вывучалі карумпаванасьць краінаў. Высьветлілася, што найбольш карумпаваныя тыя, якія атрымліваюць найбольшую фінансавую дапамогу.

Вывучылі 80 краінаў. Найбольш карумпаваныя **Камэрун, Інданэзія і Расея.** Найбольш надзейная і некарумпаваная — ***Данія.***

## УЗРОВЕНЬ ЧЭСНАСЬЦІ

У сталіцах шмат якіх краінаў праводзяцца экспэрымэнты на сумленьне людзей. На людных плошчах у натоўп падкідваюць кашалькі са 100-даляравымі купюрамі і візітнай карткай уладальніка. Потым на кампутары падлічваюць вынік — колькі кашалькоў вярнулі.

Вось адзін з вынікаў:

*Рэйк'явік* — вярнулася 100 кашалькоў са 100.

*Осла* — 99. *Капэнгаген* — 97. *Бэрн* — 37. *Рым* — 34. *Масква* — 1.

Такім чынам сталіцай чэснасьці па кашальках зьяўляецца Рэйк'явік. Трэба сказаць, што адзін вернуты кашалёк для Масквы — гэта ня так ужо і дрэнна. (Калі толькі яго знайшоў не ісландзец.)

***А. М.***

## STATEMENT

***of the Lithuanian Social Democratic Party***

After the collapse of czarist Russia, in Belarus, like in many other countries, political forces fighting for the creation of the statehood of Belarus, were being formed. On March 25, 1918, the new Government was formed at the General Congress of Belarus held in Minsk which put efforts to achieve that the independence of Belarus should be recognised. After the Bolsheviks had occupied Belarus in 1919, that Government emigrated first to Lithuania, then to Czechia and Canada. It united around itself progressive intelligentsia in emigration, was a strong moral factor vivifying the idea of the independence of Belarus, a herald calling to fight against Bolshevism. Though it was not recognised de jure, the Government continued its activity. In the course of many decades that activity helped cherish hope of the independence of Belarus. After the breakdown of the USSR, the ideas nurtured and fostered in emigration by the Government of 1918 guaranteed the moral continuity of that activity. The Government's renewed program guaranteed the freedom of speech, of the press, of rallies and strikes, as well as other elementary freedoms characteristic of the democratic society.

After President A.Lukashenka had come to power, these elementary human rights were ignored. Currently, Belarus is the only republic of the former USSR republics where practically no reorganization is taking place: no economic reforms are being carried out, the President has monopolized the official mass media, the opposition found itself outside the limits of the law. On account of all these actions a real danger of dictatorship has arisen, and Blears' relations with its neighbours are likely to deteriorate.

Due to the above-mentioned motives, the Lithuanian Social Democratic Party supports the activity of the opposition organisations of Belarus, as well as that of the revived exile Government in their fight for democracy, and is of the opinion that this activity can become an important factor in creating democratic Belarus.

*Chairman of the Lithuanian Social Democratic Party*
*Prof. A. Sakalas*
*1997.09.23*

## A STATEMENT

***by the Belarus Popular Front „Adradzennie"***

### *On Western World Politics Concerning Belarus*

The bankruptcy of the Russian financial system, which became apparent in August of 1998, made the political situation in Eastern Europe more acute. Power in Russia is being returned to factions that have been created and retained by the former Soviet Special Services. Their actions already reflect an imperialistic communist ideology as evidenced by intensified activities aimed at annexation of Belarus. Such an act would pave the way for a new totalitarianism in Eastern Europe.

*Belarus Popular Front „Adradzennie"* affirms its December 13, 1997 *„Address to the Leaders of Russia, Industrial Countries, and the International Community"* that pointed to *„the danger if power in Russia is returned to the very same political forces which have created Lukashenka's dictatorial regime in Belarus. If they have access to the nuclear button, they will be in position to blackmail the civilized world. This cannot be allowed."*

*The Belarusan Popular Front* also called on all the industrial nations to use every possible political, financial and economic means to stop Russia from sustaining and nurturing the Lukashenka regime.

We find it necessary to say that Russia's bankruptcy is, to a great extend, a result of the United States Administration's mistaken policy of providing unconditional support to Russia and Pres. Yeltsin despite absence of true democracy, the rule of law, or economic reforms, all of which are needed to support a free market economy. The US Administration chose to close its eyes to Russia's imperialist policies towards its post-soviet neighbors, and to the fact that Moscow is sparing no expense in order to support Lukashenka's anti-democratic regime. The unconditional reliance on Pres. Yeltsin is based on the hope that the Western World will be accorded some influence on the disposition of the nuclear weapons of the former USSR.

It is important to recognize that it is not possible, at the present time, to exert any influence on Russia. A criminal economic system has established itself there and any financial aid extended to Russia is funneled abroad into the private bank accounts of its leaders. Conditions in Russia are ripe for the establishment of a dictatorship through an alliance of both communist and neo-fascist forces with the functionaries of the former KGB.



*8 верасьня. Дзень Вайсковай Славы.*

We feel that in the interest of peace and world democracy, the United States and the Western World should openly disapprove of Russia's imperialistic actions and actively oppose them. Liquidation of Belarusan sovereignty under the guise of integration and dual citizenship can not be allowed. It will open the door to the Kremlin for Lukashenka since he is a candidate on whom the Russian Soviet-imperial powers rely and whom they support and admire. Dictatorship in Russia will pose a threat not only to stability in Europe but also to world peace.

We are convinced that the removal of dictatorship in Belarus will well serve the interests of the free world and will provide support to the struggling democracies of Eastern Europe.

The democratic forces of Belarus, very much like those in the rest of the post-Soviet nations, have a goal of nationhood and independence from the Soviet-Russian domination. They promote the democratic ideals of the rule of law, human rights, and individual freedoms. They also favor a free market economy, a strong relationship with the European Union and the NATO alliance. An independent and democratic Belarus together with a democratic Ukraine would bolster development of strong democracies in Eastern Europe.

We also feel that the disintegration of Russia is inevitable. We call on the democratic world to consider this disintegration as a normal, unavoidable process and, therefore, to minimize their expenditures and efforts associated with it. During the disintegration process the nuclear arsenal accumulated by the former USSR would be more effectively regulated and destroyed under international control than under the control of any Russian dictator.

***We ask the United States and the Western World to support the sovereignty of Belarus and to support the Belarusan democratic forces struggling to establish a democratic way of life there.***

*General Assembly of the*
*Belarus Popular Front „Adradzennie"*
*September 12, 1998, Miensk*

Беларускія Ведамасьці
Беларускае выданьне
У супрацоўніцтве зь Беларускім Выдавецкім Таварыствам ў Амэрыцы
Рэдакцыя: Зянон Пазьняк, Галіна Вашчанка
Адрас рэдакцыі: 02-017 Warszawa, Al. Jerozolimskie 125/127
тэл./факс: (+48 22) 628 76 73